

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто:** Verlag „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 28 (258) — Нядзеля 10 ліпеня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9

# Пад знакам канфэрэнцыі чатырох

Між трыма заходнімі вялікадзяржавамі й Савецкім Саюзам ужо канчальна ўзгоднена, што канфэрэнцыя вялікай чацьвёркі распачнецца ў Жэнэве 18 ліпеня сёлета. У сувязі з тым, што ўжо ад некалькіх год заплянаванай Чэрчылем канфэрэнцыі на найвышэйшым узроўні было прыдаванае на Захадзе вялікае значэньне, сяньня, на пярэдадні гэтае канфэрэнцыі, уся палітыка заходняга блёку разьвіваецца пад знакам хуткага спатканьня шэфаў чатырох дзяржаваў. Пад знакам гэтага спатканьня прайшло й сьвяткаваньне 10-ай гадавіны заснаваньня Задзіночаных Нацыяў, якое адбывалася ад 20 да 26 чэрвеня ў Сан Францыско.

**У атмасфэры міжнароднай сялянкі**

Палітычная атмасфэра, у якой адбывалася гэтае сьвяткаваньне, была вельмі дзіўная й несамавітая. Выглядала, што заходні сьвет як быццам забыўся аб існаваньні бальшавіцкай загрозы або паверыў, што гэтая загроза беспаваротна мінула й наступіў жаданы мамэнт міжнароднае палітычнае сялянкі.

На ўрачыстую сэсію Задзіночаных Нацыяў зьехаліся прадстаўнікі ад 60 дзяржаваў, сяброў ЗН, у тым ліку 40 міністраў замежных справаў. Кажны дэлегат выступаў з 15-мінутнай прамовай, бадай у кажнай зь іх гаварылася аб мірным суіснаваньні й раззбраеньні, або узаемным няўмешваньні і мірным выкарыстоўваньні атамнае энэргіі. Спэцыяльная камісія перад гэтым устанавіла, што ніводзін дэлегат ня будзе парушаць дражлівых пытаньняў і ня будзе абвінавачваць канкрэтна ніводнай дзяржавы.

Але Молатаў якраз першым выламаўся з гэтае пастановы. Калі ў вадказ на гэта выступіў дэлегат Кубы Нуньец Портуондо і абвінаваціў Савецкі Саюз, дык старшыня сэсіі галяндзкі дэлегат ван Клеффэнс прыклікаў яго да парадку. Гэта выклікала войструю рэакцыю філіпінскага дэлегата Ромулё, але й ён быў прыклікаваны да парадку. На заканчэньне ўрачыстай сэсіі была прынятая супольная мірная дэклярацыя, якая была ўтрыманая ў духу ідылічнага кампрамісу. Дэклярацыя акцэнтавала «супольную наважанасьць ратаваньня будучых пакаленьняў перад небясьпекай вайны». Молатаў дамагаўся, каб у дэклярацыі быў падчыркнуты прынцып «мірнай коэгзыстэнцыі», але некалькі іншых дэлегатаў супраціўіліся ўводзіць гэтую шаблённую фразу. Замест гэтага ў дэклярацыю быў уведзены сказ, што сябры ЗН вызнаюць, што надзея на будучы мір ёсьць узалежненая ад таго, у якой меры будуць рэспэктаваныя прынцыпы карты ЗН. Затое быў выкінуты з дэклярацыі сказ, што ЗН не дасягнулі поўнасьцю надзеяў сваіх заснавальнікаў.

Гэтак урачыстае сьвяткаваньне юбілею ЗН праходзіла пад знакам прыгатаваньня спрыяльнай атмасфэры для будучай канфэрэнцыі чатырох. У прамовах, сказаных на сэсіі, а таксама ў вадбываных у міжчасе нарадах міністраў замежных справаў заходніх вялікадзяржаваў і Савецкага Саюзу, выявілася, зь якімі плянамі паедзе ў Жэнэву прадстаўнік Масквы і зь якімі прадстаўнікі Захаду.

**Сем пунктаў Молатава і адзін пункт Дальлеса**

Міністар замежных справаў СССР Молатаў у сваей прамове 22 чэрвеня насьветліў у сямёх наступных пунктах праграму сяньняшняй савецкай замежнай палітыкі:

1. спыненьне ваеннай прапаганды;
2. зьліквідаваньне ваенных базаў на чужых тэрыторыях;
3. ужываньне атамнай энэргіі выключна для мірных мэтаў і навуковая ды тэхнічная дапамога для адсталых краінаў,
4. паразуменьне між 4 вялікадзяржавамі аб вывадзе акупацыйных войскаў зь Нямеччыны і стварэньні абмежаваных паліцыйных вайсковых сілаў у вабедзьвюх частках Нямеччыны пад міжнародным кантролем;
5. урэгуляваньне дыскусійных далёкаўсходніх пытаньняў на прынцыпе сувэрэннасьці і тэрытарыяльнай непадзельнасьці;
6. наладжаньне ўсходня-заходняга гандлю;
7. разьвіцьцё міжнародных дачыненьняў на культурным адрэзку, дазвол турыстычнага руху й вымены студэнтаў між савецкім блёкам і заходнімі дзяржавамі.

З гэткімі плянамі й дамаганьнямі шэф савецкага ўраду мае паехаць у Жэнэву. Як бачым, усе сем пунктаў Молатава — гэта старая савецкая песьня. Але, для большай яснасьці, пастараемся іх расшыфраваць.

Першы пункт, у выпадку яго прыняцьця Захадам, абазначаў-бы, што на Захадзе мусілі-б быць спыненыя ўсякія выступленьні супраць савецкай агрэсыўнай палітыкі і наагул усякая крытыка савецкага рэжыму, бо ўсё гэта ўспрыймаецца Саветамі, як ваенная прапаганда з боку Захаду. Затое Саветы спынілі-б ваенную прапаганду супраць Захаду, бо гэтую акцыю пасьпяхова маглі-б праводзіць іхныя пятыя калёны ў заходніх краінах. Пры зрэалізаваньні другога пункту — павінны былі-б быць выведзеныя амэрыканскія й брытанскія войскі з Грэнляндыі, Ісляндыі, Нарвэгіі, Заходняй Нямеччыны, Італіі, Грэцыі, Турэччыны, Іраку, Пакістану, Індакітаю, Фармозы, Японіі й Паўдзённай Карэі. Затое тэрыторыі ўсіх савецкіх сатэлітаў і балтыйскіх дзяржаваў, а таксама неафіцыйны савецкі вайсковы ўдзел на баку камуністычнай агрэсіі ў Тыбэце, Кітаі, Індакітаі, Паўночнай Карэі, — усё гэта мела-б і надалей служыць выходнымі пунктамі савецкай агрэсіі. Трэйці пункт меў-бы пазбавіць Амэрыку й Вялікабрытанію іхнай перавагі ў атамнай

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Нашыя дасягненьні

Мы ўжо пазнаёмілі нашых чытачоў з брашурай «Камуністычны захоп і акупацыя Беларусі», выданай Камісіяй Амэрыканскага Кангрэсу Кэрстэна (гл. «Бацькаўшчына», 21 за 1955). Мы там адцемнілі, што, ня гледзячы на сур'ёзныя хібы брашуры, — за якія паносіць віну не Камісія Кэрстэна, але нясумленныя беларускія «экспэрты», што давалі для яе матарыял, — яна зьяўляецца паважным нашым дасягненьнем.

Тут прыемна будзе сьцьвердзіць, што нашая эміграцыя ў Задзіночаных Штатах дабіваецца што раз новых удачаў. Аб гэтым сьветчыць, між іншымі, факт, што сёлетняя гадавіна 25 Сакавіка была адзначаная аж двумя артыкуламі ў дадатку да «Gongressional Record» — запісах дэбатаў Амэрыканскага Кангрэсу. Першы зь іх, загалоўлены «Дзень незалежнасьці Беларусі» зьмясьціў ад свайго імя кангрэсмэн D. J. Flood з Пэнсыльвэніі (гл. «Gongressional Record», 24. 3. 1955). «Спадар Сьпікер, — пачаў ён — 25 сакавіка 1955 году Амэрыканцы беларускага паходжаньня ды беларускія эмігранты ў Задзіночаных Штатах урачыста адзначаюць 37-ую гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі» (У арыгінале «Народная» перакладаецца як «National». Цікава адцеміць, што апошнімі часамі гэты тэрмін ужываецца Амэрыканцамі амаль выключна). Далей, аўтар коратка накрэсьліў гісторыю Беларусі, адцемліваючы, што ў 1795 годзе яна была сілком уключаная ў расейскую імпэрыю. Зазначыўшы, што «Беларусы шмат разоў прабавалі аднавіць сваю незалежнасьць», сп. Флюд пераходзіць да гісторыі ўтварэньня БНР. Ён працягвае: «Беларускі ўрад адразу ўзяўся за пашырэньне свае дзейнасьці ўва ўсіх галінах дзяржаўнага жыцьця. Ня гледзячы на вялікія цяжкасьці, зьвязаныя з вайной ды зьнішчэньнем краіны, урад дабіўся паважных дасягненьняў у галінах эканомікі, абароны, асьветы, культуры, сацыяльнага забясьпечаньня й г. д.».

Далей аўтар піша: «Падтрымоўваная Расейцамі БССР... была ўтвораная камуністымі ў супрацьвагу да дэмакратычнай рэспублікі, абвешчанай у 1918 годзе ў Менску... Легальны ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі быў змушаны йсьці на выгнаньне, каб працягваць змаганьне супраць камунізму за аднаўленьне беларускай дэмакратычнай незалежнай дзяржавы... Гэты ўрад існуе й цяпер ды вядзе найлепшыя сілы нацыі ў змаганьне за свабоду й справядлівасьць», — заканчвае аўтар свой артыкул.

Другі, абшырнейшы артыкул, зьмешчаны кангрэсмэнам A. H. Bosh'am на просьбу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня там-жа пад загалоўкам „Thirty-seventh Anniversary of the Declaration of Independence of the Byelorussian National Republic“. Артыкул апрацаваны вельмі добра й даволі падрабязна інфармуе чытача. У гістарычнай частцы ён між іншым, падчырквае розьніцу між гістарычнай Літвой і сучаснай Летувай. Асабліваю ўвагу зьвяртае артыкул на антынацыянальны характар сучаснага дзяржаўнага рэжыму на Беларусі. Прыводзім колькі цікавейшых выпісак:

«Гэтак званая Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка... займае толькі тры пятыя беларускае тэрыторыі з прыблізна 10 мільёнамі насельніцтва. Найбольш высунутая на ўсход частка Беларусі з прыблізна 7 мільёнамі жыхароў усё яшчэ знаходзіцца ў межах РСФСР...»

«Не Беларусы, а Расейцы займаюць усе вышэйшыя й адказныя становішчы. Беларусы зьведзеныя да становішча другараднае катэгорыі людзей...» Аднак «Беларус змагаецца з крэмлёўскім рэжымам штораз больш наважана. Ні плянавае народаўбіўства, ні вывазы, ні русыфікацыя ня зломяць ягонага цьвёрдага перакананьня, што адзіны спосаб, які забясьпечыць яму свабоду й справядлівасьць, гэта самакіраўніцтва й незалежнасьць».

«У гэтым няроўным змаганьні за свабоду й нацыянальную незалежнасьць беларускі народ спадзяецца на маральнае падтрыманьне вольнага сьвету і «асабліва Задзіночаных Штатаў. Сьвет ня можа дасягнуць трывалага міру бязь цьвёрдага захоўваньня прынцыпаў справядлівасьці й маральнасьці, якімі мусяць заўсёды кіравацца вольныя людзі й вольныя народы — вялікія ці малыя».

Трэба зьвярнуць увагу на адсутнасьць узгодненасьці ў вабодвых артыкулах. Гэтак сп. Флюд пералічае наступныя краіны, якія прызналі БНР дэ юрэ: Аўстрыя, Чэхаславаччына, Эстонія, Фінляндыя, Грузія, Латвія, Летува, Польшча й Украіна. У другім-жа артыкуле дададзеныя яшчэ Турэччына, Нямеччына й Армэнія, а не ўспамінаецца Польшча. Прыпамінаем, што ў вабодвых выпадках гаворыцца пра краіны, якія прызналі БНР **дэ юрэ.** Як-жа было ў запраўднасьці? Беларускія колы ў Задзіночаных Штатах павінны старацца інфармаваць Амэрыканцаў як мага аб'ектыўна й дакладна, бо казусы падобныя да ўспомненага падрываюць аўтарытэт інфармацыі, а навет могуць выклікаць у чытачоў сцэптыцызм што да цэласьці праблемы.

Прыемна пабачыць у гэтак паважным і аўтарытэтным выданьні, як «Gongressional Record», артыкул з нагоды гадавіны незалежнасьці Беларусі побач з артыкулам і аб Грэцыі, якая аднавіла сваю незалежнасьць ды жыве вольным дзяржаўным жыцьцём ужо 134 гады (між іншага, дзень незалежнасьці Грэцыі прыпадае таксама на 25 сакавіка). Прыемна сьцьвердзіць, што дзейнасьць нашай эміграцыі ў Амэрыцы дае свае вынікі. Прыемна мець падставы думаць, што лік сымпатыкаў нашай справы ў амэрыканскіх дзяржаўных колах будзе ўсьцяж узрастаць.

**У. С.**

# Экспэрты ратагарнай эры

Рэцэнзіі рапарту Керстэнавай Камісіі «Аб камуністычным захопе й акупацыі Беларусі», памешчаныя ў № 21 (251) «Бацькаўшчыны» й у № 51 «Беларуса», зьбягаюцца ў васнаўной ацэне брашуры: відаць добрая воля з боку Кангрэсовай Камісіі асьвятліць працэс камуністычнай акупацыі Беларусі поўна й аб'ектыўна. З другога боку з брашуры можна ясна бачыць, што добры намер Камісіі ў вялікай меры змарнаваны зь віны неадпаведных «экспэртаў», якія пры ўкладаньні брашуры — гаворачы словамі рэцэнзэнта «Бацькаўшчыны» — «кіраваліся ўсім, толькі не агульнанацыянальнымі інтарэсамі».

Ды рэцэнзэнты, хоць і пералічылі многія заганы й памылкі брашуры, аднака-ж замала затрымаліся над найважнейшым з нашага беларускага гледзішча: над выяўленьнем галоўных карэньняў і прычынаў недастаткаў брашуры. А гэта вельмі важна, і важна не для таго, каб паправіць тое, што ўжо сталася, але каб мець ясны пагляд на тое, як трэба ў будучыні афармляць падобныя агульнанацыянальнага значэньня й вагі справы. Тымбольш карысна зрабіць гэта таму, што гэтым часам былі апублікаваныя некаторыя новыя інфармацыі, якія льюць цікавае сьвятло на спосаб паўстаньня гэтай брашуры-рапарту й на ролю, якую пры гэтым згулялі беларускія й небеларускія «экспэрты».

Як рэцэнзэнты ўжо й выявілі, брашура на сваіх 29 б. тэксту мае нязвычайна шмат недакладнасьцяў, памылак, суб'ектыўных насьвятленьняў. Усе больш ці менш важныя разыходжаньні зь гістарычнай праўдай у брашуры, якіх у ёй ёсьць добрых пару дзесяткоў, з гледзішча на прычыны іх паходжаньня можна падзяліць на дзьве галоўныя групы: памылкі дзеля недастатковай веды гістарычнага матар'ялу (яны сустракаюцца передусім у першай частцы брашуры) і сьведамыя перакручваньні гістарычнай праўды дзеля відавочнай і знарок праводжанай вузка-партыйнай тэндэнцыі аўтараў-«экспэртаў». Няпрыемныя памылкі групы першай, але й хібы другой ня маюць нічога супольнага з той праўдай, якой хіба-ж шукала й чакала ад «экспэртаў» Камісія Амэрыканскага Кангрэсу.

Памылкі першай групы далёка недастаткова выяўленыя рэцэнзэнтам «Беларуса!» Ня можна згадзіцца й з рэцэнзэнтам «Бацькаўшчыны», што гэтыя памылкі — «няістотныя хібы». Гэткія гістарычныя «адкрыцьці», як Віленскае Княства ў XII ці XIII ст. роўнае значэньнем Полацкаму ці Смаленскаму, як знаход назову «Беларусь» ужо ў XII ст., як абвешчаная новая й арыгінальная «тэорыя» паяўленьня пратэстанцтва ў Беларусі толькі пасьля 1561 г. ды зь Лівоніі дзякуючы містру мечаносаў Кетлеру, — і дзесяткі падобных «рэвэляцыяў» былі-б новымі выдатнымі «адкрыцьцямі» нашай гісторыяведы, калі-б яны наагул былі праўдаю. Гэткая «гісторыя» сваім характарам набліжаецца да падобных «адкрыцьцяў» аднаго ратагарнага «экспэрта», якія даводзілася колькі гадоў таму чытаць, а ў якіх ведамы князь Міхал Глінскі быў перасаджаны на цэлае стагодзьдзе назад у сучасьнікі Вітаўту Вялікаму, ды яшчэ, для ярчэйшай «калярытнасьці эпохі», дакінутыя былі ім у таварыства езуіты з канца XVI ст.

У брашуры гэткага вострааактуальнага палітычнага характару гэта нязвычайна шкодныя недагляды, бо даюць магчымасьць заатакаваць бальшавіцкай прапагандзе цэлую брашуру, як твор абаперты на хвальшывых фактах, і гэтым падкапаць давер і да тых галоўных вывадаў, якія передусім намагалася даць чытачу Камісія: вобразу расейска-бальшавіцкай акупацыі й народагубнай палітыкі ў Беларусі.

У памылках другой групы трэба падчыркнуць тэндэнцыю нагінаньня фактаў да вузка палітычна-груповых мэтаў «экспэртаў». Яркімі прыкладамі гэтага можа служыць спроба «зьліквідаваць» эгзыльныя органы БНР пасьля 1925 г.; прадставіць БЦР як арганізацыю не дэкрэтаваную нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, а народна-дэмакратычную, як БНР; спроба дачапіць зь нейкага канца да кангрэсу 1944 г. у Менску Акт 25 Сакавіка з 1918 г.; наглы рэтуш у «беларускага выдатнага правадыра» й навет ледзь ня мучаніка ведамага др. Ермачэнку, на якім «тупая нямецкая ўлада» не спазналася, ды выкінула яго зь Беларусі. Ідылічна-хвальшывa прадстаўленае й палажэньне Беларусоў у даваеннай Польшчы.

Для чытача зар'ентаванага ў палітычным жыцьці паваеннай беларускай эміграцыі прычына гэтых дэфармацыяў недалёкай гісторыі ясная: да брашуры дарваліся праз меру набожныя пасьлядоўнікі пэўнай палітычнай групоўкі й на месца патрэбнага для Камісіі аб'ектыўнага матар'ялу пра генэсыд бальшавікоў над беларускім народам, падсунулі для Амэрыканцаў сваю партыйна-агітацыйную праграму з старых ратагарных выданьняў, намагаючыся гэтак расправіцца з канкурэнцыйным сабе палітычным абозам БНР. Гэткі партыйны падыход «экспэртаў» змушае, бязумоўна, прэсу БНР заняць крытычнае становішча да зьместу брашуры хоць-бы для звычайнай самаабароны перад пасяганым «ліквідаваньнем» Рады БНР.

Калі шкодная ў брашуры «гісторыя» тыпу ратагарнай эры пра князя Глінскага, дык яшчэ больш шкодна падсоўваць сьведама даверлівым сябром Кангрэсовай Камісіі, якія шукалі матар'ялу пра мучаніцкі шлях беларускага народу пад бальшавіцкай акупацыяй, партыйна-агітацыйны матар'ял. Гэтым беларускія укладальнікі брашуры найлепш выявілі тое, што яны няздольныя вызваліцца ад партыйных прыёмаў «ратагарнай эры» й не надаюцца да выконываньня агульнанацыянальных заданьняў.

Ды вузкагруповы падыход да справы зусім ня груповай, а агульнанацыянальнай, ня ёсьць яшчэ тым адзіным ліхам, што здарылася ў сувязі з укладам брашуры. У вапублікаваным у ЗША надовячы ратагарным лістку «Летапіс» адзін з укладальнікаў брашуры падаў яшчэ некаторыя рэвэляцыйныя весткі пра спосаб паўстаньня брашуры. У лістоўцы падаецца, што брашура «была напісаная трымя Беларусамі», і пазьней яшчэ «працэнзураваная» з боку «украінскага й польскага».

Цяпер лёгка дадумацца, што гэта дзеля цэнзуры «польскага боку» гэтак казачна-хораша ў брашуры выпала жыцьцё Беларусоў пад Польшчаю. Што польскі «бок» пры кажнай нагодзе гэтак, а ня накш будзе прадстаўляць гісторыю Беларусі — гэта не навіна й ня дзіва, і навет зразумела. Але дзіва не малое, што знайшліся аж «тры Беларусы», якія найшлі на гэткага характару супрацоўніцтва з «польскім бокам» ды пагадзіліся на польскую цэнзуру рапарту пра Беларусь для Амэрыканскага Кангрэсу й народу. І зрабілі гэта Беларусы той акурат групоўкі, якая гадамі крывадушна закідае для абозу БНР няіснуючае ў ім палянафільства.

Яшчэ большая неспадзеўка тое, што аніякога пратэсту з боку «трох» ані перад публікацыяй, ані пасьля, тэкст рапарту пра Беларусь быў працэнзураваны й нейкім «украінскім бокам». Дачыненьні паміж Беларусамі й Украінцамі наагул прыязныя, добрасуседзкія, якія нармальна выключаюць усялякую «цэнзуру» нацыянальных справаў аднаго народу прадстаўнікамі народу другога. Тут-жа, зь нечыяй віны, здарылася зусім наадварот.

Для беларускага грамадзянства важна й цікава ведаць, хто, якія гэта Украінцы — асобы, група, ці арганізацыя, — зусім непасуседзку асьмеліліся пасягнуць (за ціхою згодаю «трох») на сувэрэнныя беларускія нацыянальныя правы ў вольнай Амэрыцы, ды наклала сваю цэнзуру на матар'ялы зь гісторыі беларускага народу?

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Мы бязумоўна вернемся!

### РЭЗАЛЮЦЫЯ ЗЬЕЗДУ АБ'ЕДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ РАБОТНІКАЎ У ФРАНЦЫІ

У Парыжы на нядзелю 5-га чэрвеня быў скліканы агульны гадавы зьезд Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі. А 10-ай гадзіне ў беларускай капліцы было адслужана айцом Львом набажэнства для дэлегатаў з правінцыі і Беларусаў Парыжу, папаўдні ў залі Францускага Хрысьціянскага Сындыкату зьезд пачаў сваю працу.

Пасьля справазданьняў зь дзейнасьці ўступаючага ўраду і дыскусыяў над імі, зьезд прысьвяціў крыху ўвагі акцыі так званага «камітэту за возвращение на родину», які дзейнічае ў савецкай зоне Нямеччыны пад старшынствам энкавэдыскага Міхайлава. У выніку абмены думкамі аб акцыі гэтага «камітэту», зьезд беларускіх работнікаў Францыі прыняў наступную рэзалюцыю:

«На падкіданыя некаторым нашым сябром лятучкі ў беларускай мове і расейскую газэту «За возвращение на родину», у якіх заклікаецца нас да павароту на бацькаўшчыну, мы адказваем:

«Камітэт «За возвращение на родину» зусім дарэмна намагаецца ўзбудзіць у нас беларускі патрыятызм, за які, як вельмі добра ведама бальшавіком, мы апынуліся на чужыне. У такім «патрыятычна-беларускім» закліку камітэту чэкістага Міхайлава беларускія работнікі ў Францыі бачаць толькі грубы бальшавіцкі цынізм. Бальшавіцкім тыранам вельмі добра ведама, як бязьмежна мы любім Беларусь і як аддана мы гатовы служыць нашай дарагай Бацькаўшчыне. Але нам таксама вельмі добра ведама, зь якой жорсткасьцяй акупанты на Беларусі нішчаць усё тое, што намагаюцца быццам узбудзіць у нас тут, за граніцай. Нам, жыўшым у бальшыні пад бальшавіцкім рэжымам, вельмі добра ведама, як бязьлітасна й жорстка былі вынішчаны сотні тысяч Беларусаў за іх любоў да Бацькаўшчыны, і як мільёны людзей пакутуюць у бальшавіцкіх канцлягерах. Таму мы, беларускія роботнікі ў Францыі, у закліках камітэту «за возвращение на родину» ня можам бачыць нічога іншага, як спробы прыманіць нас у свае катнія рукі, каб і нас гэтак-жа зьнішчыць фізычна, як нішчылі і нішчаць нашых братоў і сясьцёр дома.

Нам зразумела таксама прычына непакою бальшавіцкае ўлады з факту нашага прабываньня заграніцай. Гэта ня турбота за наша цяжкое жыцьцё, а турбота і непакой якраз дзеля таго, што мы тут арганізуемся і працуем для вызваленьня нашай бацькаўшчыны з пад бальшавіцкай тыраніі.

Дамоў мы бязумоўна вернемся, але дзеля гэтага нам зусім непатрэбная амнэстыя бальшавіцкіх акупантаў, бо амнэстыя даецца праступнікам. Мы-ж такімі не зьяўляемся, ня лічым сябе такімі перад баларускім народам, бо мы змагаемся за волю Беларусі. Праступнікамі і злачынцамі перад беларускім народам зьяўляюцца бальшавікі. Дзеля таго не бальшавіцка-савецкая ўлада павінна нам даваць амнэстыю. **Яна** павінна прасіць такой у беларускага народу.

Мы пратэстуем перад усім вольным сьветам супраць бальшавіцкіх паклёпаў, пры дапамозе якіх нас, эміграптаў, бальшавікі намагаюцца прадставіць у найгоршым сьвятле перад нашым народам і перад усім вольным сьветам, называючы нас здэмаралізаванымі людзьмі.

Мы перакананы, што нашы браты, сёстры й бацькі, ад імя якіх бальшавіцкі камітэт Міхайлава мае нахабства зварочвацца да нас, добра разумеюць праўдзівую мэту бальшавіцкіх тыранаў у закліку да нас, толькі-ж яны ня маюць змогі апратэставаць узурпаванага бальшавікамі права гаварыць ад імя нашых суродзічаў. Дзеля таго мы паўторна і з усёй сілай заяўляем бальшавіцкім акупантам, што на Беларусь мы бязумоўна вернемся, але вернемся, як удзельнікі вызваленьня нашага шматпакутнага народу, а не як бальшавіцкія нявольнікі, не як людзі, што зракліся змаганьня супраць бальшавіцкае тыраніі.

Куток мовы

# Аб некаторых словах і хормах нашае мовы

(Працяг. гл. Но. 20, 26 і 27)

**Абмова (абмоўка), багатыр, бальшыня, булак (болка, балачына, болачна, балачынны), вонках, гара, хоця-няхоця, (хоцькі-няхоцькі), хусьце, дамок, забыцца.**

«У гэтым месцы **прыдасца агаворка».** «Прыдасца» — полёнізм, пблр. згодзіцца, «агаворка» — русыцызм. Мае быць: У гэтым месцу згодзіцца абмова (або: абмоўка). «Абмова, абмоўка» і дзеясловы да іх выясьненыя ў маіх «Некаторыя праўніцкія тэрміны белар.», там прыведзеныя прыклады і паданыя жаролы. Гэтыя словы маюць тры значэньні: а) рас. «оговор, клевета», б) рас. «оговорка» і в) абмылка ў слове. «Абмоўка» ў значэньню «оговорка» падаець і Гарэцкі ў сваім «Маскоўска-беларускім слоўніку» выд. 2-ое. **Амаўляць** у значэньню «оговаривать, рабіць увагу, ссылку» ёсьць і ў слоўніку Ластоўскага.

«Яны былі **багачамі ў параўнаньні** зь іхнымі **суродзічамі** дома». «Багач» застаўся толькі ў назове аднаго сьвята і ў рэдкіх мітолёгічных астачах, як архаізм, а наагул ён даўно ўжо заменены ў блр. мове словам **багатыр.** «Параўнаньне» — полёнізм, паблр. ёсьць **раўнаваць, прыраўнаваць, прыраўнаньне;** у прыведзенай проказі трэ' было-б сказаць «раўнуючы». «Суродзічы» — слова беларускае. Яно выясьнена ў «Ведзе» 1952 г. б. 115. Тут адно зацемлю, што звычайна ўжываецца «родзіч» і адно тады, калі мы хочам падчыркнуць нашу блізіню з родзічамі, кажам «суродзіч» Падобна ужываецца словы «вернік» і «сувернік», «грамадзянін» і «суграмадзянін» і інш. Дык было-б гэтак: Яны былі багатырамі (або: багатыры) раўнуючы да іхных родзічаў дома.

«Большасьць». Гэты полёнізм (бо зроблены подле пол. «венкшосьць») яшчэ з далітаратурнае пары (зь перад першае вайны) нашае мовы. Хто яго ўжывае, той заховуе пазычкі яшчэ зь перад нараджэньня. Паблр. **бальшыня, мяншыня.**

«Воблак» — полёнізм, паблр. **булак, болка, балачына.** «У» ў «булак» з «а» пад уплывам вуснавога «Б» (пр. «смурод» із «смарод»). «Булак» падаець Касьпяровіч у сваім слоўніку і інш. «Болка» ёсьць у «Беларуска-маскоўскім слоўніку» Гарэцкага, ды ён-жа часта ўжывае яго (і «болачка») ў сваіх творах. «Балачынка» ёсьць у слоўніках Гарэцкага і ў Насовічавым. «Балачына» ды **болачна** («облочно») і **балачынны** («облачный») падаець Даль із Смаленшчыны.

«Захад мог змусіць Саветы адступіць **паза** граніцы 1939 г.» — полёнізм, паблр. — **за.**

«Яны дзеюць **паза** краем» — таксама полёнізм, паблр. **вонках.**

«Чардак» — русыцызм, паблр. **гара.** Гэтак цяпер і даўней. У 13 стг. ў Смаленску «на гары ў Сьвятой Багародзіцы» стаяла зразавая вага.

«Будуць змушаныя **воляй-няволяй** служыць — русыцызм, паблр. **хоця-няхоця (хоцьцю-нехацьцю, хоцькі-няхоцькі).** «Хоцькі-няхоцькі», між іншага, ёсьць у слоўніку Шатэрнікавым із Ігуменшчыны. «Хоця-няхоця» ёсьць у Насовіча і яго часта ўжываюць пісьменьнікі з цэнтральнае часьці Беларусі. Прывяду прыклад із Зарэцкага «Сьцежкі-дарожкі»: хоця-няхоця, а прыйдзецца неяк ёй перадаць. Зварочую ўвагу на наступныя прыклады з таго-**ж** твору: лес раздаюць каму хоця (б. 237). Можа хадзіць куды хоця. (245) Гатоў-бы зрабіць што хоця (219). Езьдзіць па карку ў яго хто хоця (70). Прыведзеныя прыклады адказуюць рас. «кому, куда, что, кто угодно».

«Домік» — русыцызм, паблр. **дамок.** Таксама **вазок, кусок, лісток, садок.** Пайшоў каток пад масток, злавіў рыбку за хвасток (з нар. песьні).

«Забуду» — вузкі провінцыялізм, агульна-беларускі дзеяслоў **забудуся.**

**Жудасны, крыксун, мерны, назіраць, пагроза, ся! сёлета, станаўкі, Стоўпцы, сьпелы, Тахвіль.**

**«Жудкай** і няпрытульнай здаецца нашая **валацуга».** «Жудкая», гэта — рас. «жуткая», паблр. **жудасная.** «Валацуга» — гэта добрае блр. слова, але азначае чалавека (мужчыну альбо жанчыну), а тут трэба сказаць «бадзяньне», «цяганьне» або яшчэ як, але не «валацуга».

«Крыкун» — русыцызм, паблр. **крыксун, ж. крыксуха.**

«Умяркаваны» — полёнізм, паблр. **мерны,** прыслоўе «мерна», спакменьнік «мернасьць».

**«Нагляданьне** зьяваў прыроды». Блр. словы «наглядаць, нагляданьне, нагляд, нагляднік» адказуюць рас. «надзирать, надсматривать, надзор, надсмотр, надзиратель, надсмотрщик», пол. «дозороваць, надзур, дозур, дозорца». Тут мае быць: **Назіраньне** зьяваў прыроды.

Блр. «назіраць, назіраньне, назіраньнік» адказуюць рас. «наблюдать, наблюдение, наблюдатель», пол. обсэрвоваць, обсэрвац'я, обсэрватор». Прывяду прыклады із слоўнікаў Насовічавага й Шатэрнікавага: Назірай добра, каб статак ня лез у шкоду. Назірай за пчоламі. Назірай, куды ён пойдзе.

«Загроза» — полёнізм, паблр. **пагроза,** дзеясловы **пагразіць, пагражаць.**

**«Ша!** Чую ўжо крык»! Гэтак папольску й парасійску, але пабеларуску **ся!**

«Станоўчы» — полёнізм, паблр. **станаўкі, станаўко, станаўкосьць.** «Станаўкі, станаўко» ( з націскам на канцу) я запісаў у Лідзкім павеце; Я. Колас ужывае з націскамі на передапошнім складзе (станоўкі, станоўка), у Зарэцкага ёсьць «станоўка». **Станаўкі** (з націскам на -кі) вымаўляюць і ў Віцебшчыне, што падаець Касьпяровіч у сваім слоўніку. Гэта й будзе чыста беларуская хорма. Як бачым, яна запісана ў дзьвюх далёкіх адна ад аднае беларускіх мясцовасьцях — Лідчыне й Віцебшчыне — і напэўна ўжываецца на прасторы паміж гэтымі мясцовасьцямі.

«Стоўбцы, Стаўбцоўскі павет». Гэтак Расійцы перакручуюць нашыя Стоўпцы подле свайго «столб», каторага ў нас няма. Мы маем «стоўп», ад каторага здрабнелае хормы «стаўпец» і ўзьнік назоў месца «Стоўпцы», як яны завуцца. А прыметнік «Стаўпецкі».

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Шляхі беларускіх дзяцей...

(Запанчэньне з 2-ой бачыны)

выходжу з бараку, стукнуў дзьвярыма, а сам затрымаўся ў кутку. каб нарэшце даведацца, хто тут парушае цішыню. Прайшло, мусіць, зь мінуту і дзеці, думаючы, што я ўжо адыйшоў далёка, загаманілі. Расказваў спачатку адзін, а іншыя збоку дадавалі свае заўвагі. Я ўжо хацеў запаліць сьвятло, каб пабачыць гэтага «пачынальніка», як раптам зьмест гутаркі зацікавіў мяне й я заставаўся ў кутку.

— Трэба злажыць песьню «жаласную-жаласную». I як затрымаемся на якойнебудзь станцыі, як засьпяваем усе разам, дык усе людзі будуць плакаць... — чуўся голас з глыбіні пакою.

— Але песьня мусіць пачынацца з таго, як нас вывозілі, — дадаў нехта зь іншага боку.

— Ну і будуць-жа дзівіцца ўсе, як пабачаць нас жывымі, — выказваў нехта сваю думку.

Ужо запануе на момант цішыня ды потым ізноў хтосьці пачынае. I ўвесь час тая самая тэма: як будзем ехаць дадому, як будуць нас сустракаць, як будзем расказваць аб сваіх перажываньнях на чужыне. Была ўжо напэўна гадзіна адзінаццатая. Я ціха адчыніў дзьверы ды таксама як мага найцішэй выйшаў з бараку. Спаць не хацелася. Як можна было змушаць іх да маўчаньня?

### Дэсаў пад бомбамі

Прыгожы ясны жнівеньскі дзень. Пад гадзіну адзінаццатую — раптоўны алярм. Нашыя групы із школы і із хвабрыкі прыбываюць у лягер. Сабраўшы ўсіх. хочам хутка выйсьці ўлес, але кіраўніцтва лягеру ня радзіць нам рабіць гэтага, бо так як ня было папераджальнага алярму, самалёты магчыма ўжо недалёка і мы можам папасьціся ў вадкрытым полі пад адломкі артылерыйскіх ёдраў. I запраўды, ужо цераз некалькі мінут дзесьці ў ваколіцы грыміць артылерыя. Дзеці заходзяць у бункеры. Гэта фактычна ня бункеры, а равы, з тэй толькі розьніцай, што ацэмантаваныя й пакрытыя зьверху. Пачынае біць дэсаўская артылерыя і, толькі прыглядаючыся да дымкоў артылерыйскіх узрываў, заўважаем сярэбраныя пункцікі, што прыбліжаюцца ў нашым кірунку. Яны ўжо амаль над горадам. Зыходзім у бункеры і тут адусюль пытаньні: «Спадар кіраўнік, будуць нас сяньня бамбіць?» Вось і адказвай на такое пытаньне! Зрэштай ужо і адказу ніхто не пачуў-бы: артылерыя вырабляе такое пекла, што ўжо проста не паасобныя ўзрывы, а прарэзьлівы суцэльны гром урываецца ў вушы. Але вось праз гэты гром прабіваецца яшчэ іншы гук: жахлівае выцьцё й нейкі хрыпаты шум. Усе разумеюць, што гэта значыць: адныя падаюць на падлогу бункеру, іншыя затыкаюць пальцамі вушы, некаторыя, асабліва дзяўчаты, плачуць, некалькі чалавек распачліва прыціскаецца да мяне, нешта крычаць, і я не магу разабраць словаў. А потым, можа зь мінуту, можа менш ці больш, ужо адчуваецца ня гук, а бесьперапынныя колькі ў вушох; здаецца й бункер і ўвесь сьвет хістаецца й хутка разьляціцца на кавалкі. Пасьля першай сэрыі бомбаў — другая, потым трэйцяя. Перад апошняй сэрыяй выхіляю галаву з бункеру (дзьвярэй тут няма) і бачу. што баракі нашы стаяць, але лягер авеены дымам.

Як хутка пачалося, так хутка й скончылася. Калі выходзім нарэшце з бункераў, адразу бачым чорныя клубы дыму ў тым месцы, дзе яшчэ колькі мінут таму стаялі хвабрычныя блёкі. Горад таксама гарыць. Лягер уцалеў і толькі тры крайнія баракі разьвернутыя, у іх зрэштай ніхто ня жыў.

(Працяг будзе)

А. Галубіцкі

Гэныя мае фразы былі падхопленыя тэндэнцыйнымі шавіністымі і стварылася досыць дурная легенда аб Бэрыі, як аб чалавеку, што ненавідзіць увесь расейскі народ, што зь ненавісьцю ставіцца да мінуўшчыні й сучаснасьці гэтага народу.

Мабыць, ніхто болей за мяне не называў крэмлёўскіх верхаводаў ворагамі народу, у тым ліку й расейскага. Бэрыі выключэньня я не рабіў і для гэтага маю добрыя падставы. Ён мне не таварыш, не аднадумнік. Мае пагляды аб ім дастаткова ясна выкладзены ў дзесятках артыкулаў на розных мовах, у радзе кнігаў і брашураў. Але дзеля аб'ектыўнасьці ўсё-ж трэба падчыркнуць, што паказаныя нягодныя формулы былі сказаныя ім пад адрасам Молатава й Яжова, а не ўсяго расейскага народу; падругое, Бэрыя быў ворагам русацтва з прынцыповых меркаваньняў, як галоўны ахароньнік канстытуцыйных літараў і духу (гэтак называў ён самога сябе), а не як заалягічны расісты; патрэйцяе, у ягоных афіцыйных правомах можна знайсьці колькі хочаце камплімэнтаў пад адрасам расейскага народу.

Чаму-ж тады мы да яго прычэпліваемся? Ды таму-ж, чаму прычэпліваемся да формулы Ільлі Эрэнбурга: таварыш, забі **Немца!**

### 41 Аб запраўдных антырасейскіх выказваньнях Бэрыі

Я рэвалюцыйны дэмакрат, і як такі ня вызнаю ніякага народу, што складаўся-б з адных толькі чартоў або з адных анёлаў. Мы гаварылі Эрэнбургу: паслухайце, ня кажны Немец ёсьць гітлераўцам! Мы не маглі гаварыць да пары да часу Бэрыі: паслухайце, ёсьць Расейцы, што маюць нюх лепшы за грузінскі! Але калі паявіліся магчымасьці, мы яму сказалі або далі знаць. Сяньня тое-ж самае гаворым, прыкладам, аб галічанах: паслухайце, спадар Вайнбаўм, ня ўсе галічане зьяўляюцца крыважэрлівымі ворагамі расейскага народу! Мы гаворым Керэнскаму: паслухайце, прэзыдэньце: ня ўсе Каўкасцы такія ідыёты, каб падыймаць нацыянальна-вызвольныя эмоцыі эмоцыямі антырасейскага газзавату! Спадзяюся, тут нашыя пазыцыі крыштальна ясныя.

Разам з тым, я далёкі ад жаданьня выгараджваць Бэрыю із запраўдных ягоных антырасейскіх намераў. Такія ў яго бывалі. Але й тут патрэбная большая дакладнасьць, хаця-б таму, што яго няма між жывымі. Чаго вартыя, прыкладам, ягоныя «жарты» й «анэкдоты» аб тым, што русацтва й жданаўшчына не зьяўляюцца выпадковымі вынаходамі Жданава, што ў розныя эпохі расейскай гісторыі яны прыймалі розныя формы, прысьпешваліся з розных прычынаў, а ў «вагульным і цэлым» аставаліся й астаюцца «прыроджанай рысай расейскай традыцыі». Або гутаркі аб тым, што сацыялізм у СССР паступова падмяняецца «расейскім спосабам жыцьця», што нерасейскім народам СССР «прыходзіцца прыстасоўвацца да расейскага спосабу жыцьця й думкі», што «якісьці расейскі дурань думаў замяніць грузінскі альфабэт славянскім» і г. п., і г. п.

Таксама, намагаючыся быць аб'ектыўным, я ня думаю, што гэносыды былі дакананыя зусім не бязь ведама і згоды Бэрыі, так ужо й карысныя рэпутацыі расейскага народу. Палажыўшы руку на сэрца, у свой час у нашым акружэньні хадзіла тэорыя, што разгром народаў паўдня СССР быў дакананы ў **антырасейскіх** правакацыйных мэтах. Я асабіста не падзяляў гэтай вэрсіі, я глядзеў на рэчы больш проста, але характэрна-ж, што аўтарамі вэрсіі былі чыстакроўныя расейскія людзі, спосабам думаньня дэмакраты.

Вось-жа ўсё гэта ў той ці іншай форме можа быць выясьненае, як запраўдныя супрацьрасейскія намаганьні Бэрыі. Але Керэнскі ідзе яшчэ далей: ён прыпісвае яму арганізацыю збройнага паўстаньня Каўказу супраць «маскоўскага ўраду». Я думаю, што гэта і няпраўда і несправядліва, калі пад «маскоўскім урадам» уважаецца працоўны расейскі народ.

### 42. Бэрыя і новая канстытуцыя

Мне лёгка ўявіць настрой і думкі Серава падчас чытаньня гэтых зацемак, бо-ж ён, мабыць, дагадваецца, што пішуцца яны на падставе матарыялаў, якія ня раз былі ад яго, скажам, на мэтравым аддаленьні. У вадным з гэтых матарыялаў гаварылася наступнае:

Перагляньце маскоўскія газэты за 1936 год і вы пабачыце, што Бэрыя быў сябром канстытуцыйнай камісіі, адзін із найбольш звонкіх яе прапагандыстых. Але вось прыйшоў 1941 год. Масква пад загрозаю гітлераўскай акупацыі. Бэрыя, як вярхоўны кіраўнік нутранай палітыкі і бясьпечнасьці, прыймае драконскія захады па арганізацыі масавага супраціву ворагу. А Сталін 7 лістапада з трыбуны маўзалею Леніна апэлюе да дзеячоў царскай Расеі.

Бэрыя быццам прачнуўся. Ён ня можа ці ня хоча зразумець. Чаму толькі дзеячы расейскай гісторыі? Няўжо вораг загражае толькі Расейцам і Расеі? Няўжо ў нерасейскіх народаў няма гістарычных дзеячоў? Няўжо яны не праліваюць крыві й сьлёз? Няўжо канстытуцыя СССР не забараняе якой-бы ня было дыскрымінацыі і гэтак далей?

Ведама, што ў ночы з 31. 12. 1943 г. на 1. 1. 1944 г. цераз маскоўскае радыё ўпяршыню быў выкананы новы дзяржаўны гымн СССР. Дачыненьне да гэтага гымну зьявілася рэвалюцыйным і дэмакратычным выпрабаваньнем для кажнага інакшдумаючага: хто захапляўся, той быў рэакцыянэрам і антыдэмакратам. Мы лічылі яго суцэльна рэакцыйным, імпэрыялістычным, контррэвалюцыйным, шавіністычным і антыканстытуцыйным. Але якое было нашае зьдзіўленьне, калі за пару год даведаліся, што супраць **некаторых** частак гымну выступіў і Бэрыя, пры чым выступіў зусім адкрыта, на палітбюры, хоць і ў васьціярожных выказваньнях.

Гымн пачынаўся словамі: «Союз **нерушимый** республик свабодных навеки сплотила **Великая Русь».** Як вярхоўны ахароньнік канстытуцыі, Бэрыя думаў, што калі «нерушимый» і «навеки», дык адпаведныя артыкулы канстытуцыі аб праве кажнай союзнай рэспублікі на выхад із СССР трацяць сэнс, быццам касуюцца. Калі «Великая Русь», дык артыкул канстытуцыі аб недапушчальнасьці простага ці пабочнага ўзьвялічаньня якой-бы ня было з нацыяў СССР траціць зьмест, уваходзіць у супярэчнасьць з гымнам і, паколькі апошні зьяўляецца дакумэнтам пазьнейшым, дык ён фактычна касуецца.

### 43. Бэрыя і русацтва

Я ня зьбіраюся абгаварваць тут, у якой меры Бэрыя меў рацыю ці яе ня меў, — для дадзенага выпадку хачу падчыркнуць, што падобныя ягоныя меркаваньні неяк асталіся мала заўважанымі ў вайну, пачалі выходзіць на паверхню толькі пасьля вайны, і сталіся часьцейшымі, прыймалі ўсё больш правакацыйныя формы. Асабліва сталіся частымі яны ў другой палавіне 1946 году, калі пад кіраўніцтвам Жданава, сакратара ЦК ВКП (б) у ідэялёгічных пытаньнях, пачало падыймаць галаву русацтва, адно з найбольш ганебных і рэакцыйных зьявішчаў у савецкай гісторыі.

Сутнасьць русацтва была да вульгарнасьці простая: усё вынайшлі Расейцы, на ўсё прагрэсыўнае здольныя толькі Расейцы, расейская работніцкая кляса ад вякоў служыць сьветачам надзеяў для ўсяго чалавецтва, найлепшае малако ў сьвеце даюць расейскія каровы, Леніна й Сталіна магла высунуць толькі Расея, варштат стварылі расейскія майстры, першы лёт быў выкананы Расейцам і гэтак далей.

Рэакцыя Бэрыі на гэта мне добра ведамая зь першых жарол. Яна ня была рэакцыяй антырасейскай, — яна была толькі антырасаўскай, антыжданаўскай. Бэрыя, пры ўсей сваей удачы тырана, выявіў якасьці, зь якімі не маглі не згадзіцца навет ягоныя ворагі зь ліку антыкамуністых. Ён уважаў, што расавае русацтва падрывае ў корані рэпутацыю шматнацыянальнай савецкай дзяржавы, што яно робіць гутаркі аб брацтве й роўнасьці аблуднымі, што русацтва зьяўляецца атрутай для атручваньня псыхалёгіі нерасейскіх народаў, што Жданаў, такім чынам, робіць подлую справу, перадусім у дачыненьні да самога-ж расейскага народу, бо адштырхвае ад гэтага народу нерасейскія народы, выклікае антырасейскія эмоцыі.

У 1949—50 г., як ведама, русацтва дасягнула новай фазы: пачалося перапісваньне гісторыі нерасейскіх народаў. Гэта быў пэрыяд канчальнай лютасьці Бэрыі. Ён пачаў рабіць некаторыя захады ў вадваротным кірунку. Жданава болей ня было, — жданаўцы пачалі адчуваць сур'ёзныя нязручнасьці ад Бэрыі. Але разам з тым у 1950—51 гг. было ясна, што якіясь сілы ў Крэмлі насторожыліся і ў дачыненьні да самога Бэрыі, што разьвязка зьбліжаецца да фіналу.

(Далей будзе)

# Аб некаторых словах і хормах нашае мовы

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Пабелр. **сёлета, сяголета, сягалета,** а ня «гэтага году».

«Дасьпелы» — полёнізм, бо зроблена подле пол. «дойжалы», паблр. **сьпелы.**

Паблр. **Тахвіль,** а не «Тэафіль».

**Націск**

Кажам **высака, глыбака, зелена, соладка, сьцюдзена, шырака** (націск на першым складзе), хоць высокі, глыбокі, зялёны, салодкі, сьцюдзёны, шырокі (націск на другім складзе).

**Некаторыя хормы**

«Церазь некалькі дзён будзеце ахрышчаны». Дзеля вызначэньня часу, пасьле каторага штось станецца, у блр. мове ўжываецца прыймя **за.** Дык будзе: За колькі дзён будзеце ахрышчаныя.

«Заплоднівалі». Паблр. **запладнялі.**

«Любві» — русыцызм, паблр. **любові,** усё роўна, ці гэта агульнае, ці собскае імя. Гэта тая-ж рыса, якую маем у **рота, раты, моху, лобу, навозу, лёну, лява (і Лява), лявіцы,** — асаблівасьць, разьвітая на беларускім грунце. Рысаю, адзержанай успадкі з пары праславянскае, ёсьць хормы: рову, равы, лёну, камяні, карані, крамяні (із самагукам па **р, л, м).**

«Езус зьявіўся адзінаццаём, за сталом **сядзеўшым,** і выгавараваў ім... **закамянеласьць** сэрца, што ня верылі **бачыўшым** Яго, **згробуўстаўшага».** Дзеяпрыметнікі на -шы, -ўшы (зн., хорма скланяная) ня ўжываюцца і ніколі ня ўжываліся ў блр. мове. Замест іх можа быць альбо апісаньне, альбо дзеяпрыметнік мінулага на -лы, альбо рэдчас былы дзеяпрыметнік на -чы, што ўтраціў сваю часовасьць і стаўся прыметнікам. Дык было-б гэтак: Езус зьявіўся адзінаццаём, за сталом **седзячым,** і вымаўляў ім... закамянеласьць сэрца, што ня верылі тым, **каторыя Яго бачылі ўскрэслага.**

«Евангельле» — хорма расійская, адно зь беларускім падвойным «льл». У беларускай мове гэтае слова заўсёды было жаноцкага роду і найчыстшай яго беларускай хормаю ёсьць **Ванэля.**

«Так як». «У плянах Масквы допускаюцца войны пэрыфэрыйныя, **так як** войны такія прынесьлі камуністым вялікі сукцэс» — русыцызм, паблр. **бо.**

**«Так як** справа сумлеўная, каб Захад наважыўся выкарыстаць сваю атомную перавагу, нельга вылучыць магчымасьць...» — таксама русыцызм, паблр. **дзеля таго што.**

**Я. Станкевіч**

(Далей будзе)

# Тут справа ня юсаў

Карыстаючы з ласкавых запросінаў да выказываньня таксама і няспэцыялістых, зробленых сп. др. Я. Станкевічам у «Кутку Мовы» ў нумары 20 «Бацькаўшчыны», дазваляю сабе зрабіць некалькі заўвагаў у справах парушаных у вышэй азначаным артыкуле. Хаця др. Я. Станкевіч і стаўляе знак раўнаньня паміж словамі «закраса» і «заправа», адно адкідаючы слова «заправа», як маскалізм, мне аднак здаецца, гэтыя словы выражаюць цалком іншыя паняцьці. Слова «закраса» ўжываецца ў дачыненьні да харчавых прадуктаў, якія зьмяшчаюць у сабе тук, як сала, здор, масла, сьмятана, малако, але ня ўжываецца ў дачыненьні да перцу, солі, ляўровага лісту і г. д. У дачыненьні да другога пералічэньня ўжываецца слова «заправа» або «прыправа». Калі слова «заправа» запраўды маскалізм, дык трэба знайсьці на гэтае месца нейкае іншае слова, але ня ўціскаць паняцьцяў, што выражае слова «заправа» у слова «закраса», якое мае іншае значаньне.

Вельмі магчыма, што слова «пажыўны» гэта полёнізм, хаця др. Я. Станкевіч ня лічыў патрэбным свайго цьверджаньня абаснаваць. Магчыма, што для лінгвістага гэта ясна бязь ніякага сумлеву, для няспэцыялістага аднак цьверджаньне др. Станкевіча будзіць некаторыя сумлевы, бо ў самым гучэньні слова ня вычуваецца уплыву польскае мовы, а самы карэнь слова не зьяўляецца нейкай выключнасьцяй польскай мовы, бо з гэтым самым каранем маем цэлы рад бяссумлеўна беларускіх словаў.

Незалежна аднак ад таго, ці вучоныя лінгвістыя прызнаюць гэтае слова за полёнізм, нельга згадзіцца зь цьверджаньнем др. Я. Станкевіча, што слова «пажыўны» мае тое самае значаньне, што слова «сытны». Слова «сытны» ўжываецца для абазначэньня ўласьцівасьці нейкай ежы ці раду патраваў выклікаць пачуцьцё насычэньня. Гэтае пачуцьцё насычэньня. Гэтае пачуцьцё зьяўляецца аднак усяго толькі суб'ектыўным адчуваньнем нейкай асобы; азначае, што даная асоба адчувае пачуцьцё супроцьлежнае пачуцьцю голаду. Пачуцьцё сытасьці нічога не гаворыць аб вартасьці для нашага арганізму прадуктаў, выклікаўшых пачуцьцё сытасьці. Слова-ж «пажыўны» азначае тое, што зьяўляецца аб'ектыўным сьцьверджаньнем, што данае рэчыва зьяўляецца пажыўным — гэта значыць у ім знаходзяцца складовыя часткі, патрэбныя для жыцьця арганізму ў дастаткова вялікай канцэнтрацыі і ў форме, здольнай да прысваеньня арганізмам.

Сп. др. Я. Станкевіч адзначыў некаторыя адмоўныя бакі ў дачыненьнях грамадзтва да мовы, але прапусьціў яшчэ адзін мамэнт. Гэтым прапушчаным мамэнтам зьяўляецца сьведамая ці нясьведамая тэндэнцыя да прымітывізацыі нашае мовы.

У свой час, у лягеры Д. П. у Нямеччыне, сп. Хвалько, перакладаючы з ангельскае мовы нейкі расказ О. Уальда, зьвярнуўся да аднаго зь беларускіх паэтаў з просьбаю парадзіць яму, як перакладаць на беларускую мову назовы розных дарагіх каменьняў, як напр. рубіны, сафіры і г. д. Паэта на хвіліну, вельмі кароткую, задумаўся, а тады сказаў, што наш народ ніякіх такіх назоваў ня ведае і дзеля гэтага трэба перакласьці проста «дарагія каменьні». Калі перакладчык запярэчыў, гаворачы, што каменьні бываюць розныя, дык гатовы да кампрамісу паэта сказаў, што можна напісаць чырвоныя, зялёныя і ўсялякіх іншых колераў дарагія каменьні». Можна і гэтак, але калі праrрэс, або лепш кажучы рэгрэс мовы пойдзе ў гэткім кірунку, дык пры перамоваў будуць паўставаць такія самыя цяжкасьці, якія паўстаюць пры перакладзе на беларускую мову зь іншых ладзе бібліі на мову нейкага племя з экватарыяльнай Афрыкі.

Што да «другадня» замест аўторка, можна было-б на гэта згадзіцца, калі-б была пэўнасьць, што праз год, скажам, нехта ня ўспомніць, што недзе замест серады гавораць трэцядзень. Ізноў будзе прапанавацца зьмена, а такога роду зьмены выклікаюць і ў сваіх і ў чужых уражаньне аб тым, што беларуская мова яшчэ ня мае ўстаноўленага слоўніка самых штодзённых словаў.

Цьверджаньне, што слова «другадзень» выключны беларускі твор, трохі сумлеўнае, бо, напрыклад, Летувісы ўсе працоўныя дні тыдня называюць паводля ўзору «другадзень», як, першадзень, трэцядзень і г. д.

Сп. др. Я. Станкевіч паведаміў, што атрымаў вялікоднае павіншаваньне з прыгожай беларускай калядкай — з прыпеўкай Хрыстос Уваскрос. З гэтага відаць, што др. Я. Станкевіч слову «калядка» прыпісывае значаньне іншае ад агульна прынятага. Да гэтага часу калядкай прынята было называць калядную песьню. Што разумее др. Я. Станкевіч пад гэтым словам, цяжка сказаць. У ягоным сказе слова калядка можа значыць верш наагул, можа азначаць нейкую спэцыяльную форму верша, ды наагул цяжка навет дадумвацца, што гэта можа значыць.

У галіне мовы ёсьць вялікае поле да працы, але на пагляд няспэцыялістага ўсю энэргію ў гэтай галіне трэба ськіваваць на тое, каб у беларускай мове стварыць і ўвесьці ў ужытак словы на выражэньне ўсіх існуючых паняцьцяў, выкрываць яўныя барбарызмы, але на сяньняшні дзень не займацца сумлеўнымі выпадкамі, асабліва тады, калі выступаючы супраць нейкага слова, не прапануецца нічога на ягоную замену. Заменай, ясна, ня можа лічыцца прапанова замест двух словаў, выражаючых розныя паняцьці, пачаць карыстацца адным словам, якое да таго часу гэтага другога значаньня ня мела.

**В. Мікалаеня**

З навукі і тэхнікі

# НАШАЯ БУДУЧЫНЯ

**I. РАСЬЦЁМ КОЛЬКАСНА**

У свой час Ангелец Мальтус, займаючыся праблемай росту насельніцтва, даводзіў, што ў будучыні чалавецтва нямінуча дойдзе да агульнае катастрофы з прычыны перанасяленьня нашае плянэты. Сваю тэзу ён абапіраў на прыраўнаньні двух фактараў: а) тэмп росту насельніцтва, б) тэмп росту прадукцыі харчаваньня. Ён даводзіў, што прырост насельніцтва павялічваецца згодна геамэтрычнай прагрэсіі, у той час як прадукцыя сяродкаў харчаваньня павялічваецца згода арытмэтычнай прагрэсіі. У выніку прыйдзе час, калі перанаселеная Зямля ня зможа больш выжывіць сваіх жыхароў. Калі-б ня браць на ўвагу такіх фактараў, як разьвіцьцё тэхнікі й навукі, а ў сувязі з гэтым выкарыстоўваньня чалавецтвам такіх магчымасьцяў, аб якіх Мальтусу й ня сьнілася, дык хто ведае, ці ўжо сяньня мы не апынуліся-б у гэтай прарочанай Мальтусам катастрофе.

Тымчасам сяньняшнія спэцыялісты дэмаграфіі, хоць і прызнаюць рацыю Мальтусу што да тэмпа росту насельніцтва нашае плянэты (гэта пацьвярджаецца зрэштай лічбамі), тым ня менш яны ўжо ня так пэсымістычна глядзяць у будучыню.

Перадусім пабачым, што нам кажуць гэтыя лічбы. Вось-жа ў сярэдзіне 17 стагодзьдзя насельніцтва Зямлі дайшло да 550 мільёнаў чалавек. Ад гэнага часу за тры стагодзьдзі яно павялічылася ў пяць разоў. I сяньняшні гадавы прырост яго сягае калясальнае лічбы — 30 мільёнаў чалавек! На аснове гэтага тэарэтыкі вылічаюць, што дзесьці каля 2.150 году насельніцтва дойдзе да 7—8 мільярдаў чалавек. У ваддзеле-ж насельніцтва пры Задзіночаных Нацыях дапушчаюць, што ўжо ў 1980 годзе насельніцтва будзе складаць ад 3,3 да 4 мільярдаў чалавек, г. зн. што за няпоўныя тры дзесяткі гадоў яно павялічыцца на 50% у прыраўнаньні зь сяньняшнім станам. Ясна, што ўсе гэтыя дапушчэньні й вылічэньні маюць перадусім тэарэтычны характар, тым больш, што рэпрадукцыйная сіла ўсіх народаў падпарадкоўваецца пэўным цыклічным рухам, вынік і сілу якіх цяжка ўлічыць у падобных дапушчэньнях.

У дачыненьні да тэмпа прадукцыі сяродкаў харчаваньня ўсякія прыпушчэньні носяць яшчэ больш спэкулятыўны характар. Дзеля гэтага ў нашыя часы ніводзін паважны спэцыяліст ня стане больш прэтэндаваць на адкрыцьцё нейкага закону такога росту, як гэта рабіў Мальтус, які ўсю праблему за шмат спрошчваў ды ня ўлічваў паасобных фактараў, што дзейнічаюць, як на рост насельніцтва, гэтак і на рост прадукцыі сяродкаў харчаваньня.

У выніку, сяньняшняя праблема, што вынікае з хуткага росту колькасьці насельніцтва й патрэбы прахарчаваньня яго, не заключаецца ў пошуках сяродкаў абмежаваньня гэтага росту, як гэтага дамагаліся пасьлядоўнікі Мальтуса; яна заключаецца ў шуканьні сяродкаў як найбольш раўнамернага разьмеркаваньня харчовых прадуктаў між паасобнымі вялікімі скупішчамі насельніцтва ды як найбольш рацыянальнага выкарыстаньня ўсіх магчымых рэсурсаў Зямлі.

**II. РАСЬЦЁМ УВЕРХ**

Побач нязвычайнага павялічэньня натуральнага прыросту насельніцтва, сьцьверджана апошнімі часамі, што й рост чалавека поступова павялічваецца. На чым-жа базуюцца такія цьверджаньні? Вось-жа перадусім заўважана, што сярэднявечныя панцыры, што іх надзявалі рыцары, на сучасных людзей ужо за малыя. Апрача гэтага із статыстычных дадзеных відаць, што працэнт людзей больш чым сярэдняга росту сыстэматычна й даволі хутка павялічваецца ўва ўсіх частках сьвету. I так, прыкладам, у Амэрыцы мужчынаў ростам 175 см. сяньня на 45% больш, чым іх было яшчэ ў 1918 годзе; за гэты-ж самы час колькасьць мужчынаў ростам 180 см. павялічылася на 70%.

Навукоўцы задаюць сабе пытаньне, што спрычынілася да такога значнага пабольшаньня росту чалавека, якое заўважаецца навет на працягу аднаго пакаленьня. Некаторыя зь іх уважаюць, што прычынай гэтага зьяўляецца палепшаньне ўмоваў жыцьця й перадусім харчаваньня.

У сувязі з гэтым паўстае іншае пытаньне: калі ўжо на працягу толькі аднаго пакаленьня рост чалавека заўважна пабольшыўся, дык які-ж гэты рост будзе цераз 100, 1.000 пакаленьняў? Што да гэтага думкі вучоных падзеленыя. Некаторыя зь іх уважаюць, што рост чалавека і ў будучыні будзе стала пабольшвацца і цераз 10.000—100.000 гадоў чалавек станецца супэрволатам, а дзеля гэтага самага ня будзе больш здольны да жыцьця й пачне выміраць, як гэта здарылася з дынэзаўрамі, жывёламі гігантычных памераў.

Бальшыня-ж амэрыканскіх антрапалёгаў лічыць, што чалавек можа дасягнуць толькі пэўнага росту, вышэй якога ня пойдзе. На іхную думку, гэтай мяжой будзе рост прыблізна 2,40 м., якога чалавек дасягне на працягу некалькіх наступных тысячагодзьдзяў.

Зразумела, што як адныя, так і другія ня маюць моцных навуковых аргумэнтаў для абгрунтаваньня сваіх цьверджаньняў, якія з гэтае прычыны й зьяўляюцца толькі хутчэй мутнымі прыпушчэньнямі, чымся тэорыямі.

**А. Г.**

# Экспэрты рататарнай эры

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

Гэтую інфармацыю вінаватыя для беларускага грамадзтва тыя «тры», што на гэткую цэнзуру моўчкі пайшлі, задаволіўшыся як рэкампэнсатай атрыманым ганарарам. Выяўлены факт цэнзуры з «украінскага боку» відаць ёсьць і прычынаю таго, што ў сьціплай брашуры пра Беларусь памешчаныя цэлыя абзацы зь гісторыі Украіны (пркл. на б. 5); што Беларусь у пару незалежных княстваў прадстаўленая ў ёй як правінцыя Кіява: што ў ёй няма й успаміну пра выдатны Літоўскі Статут, пра доктара Скарыну й г. д. Прычына гэтаму ўсяму відавочна тая, што ёсьць-жа й такія ўкраінскія аўтары, для якіх Статут — пісаная паўкраінску памятка ўкраінскага права; Скарына — украінскі культурны дзеяч.

Паколькі справаю партыйнага насьвятленьня гістарычных фактаў могуць яшчэ мо й быць радыя некаторыя блізарукія палітыкі БЦР ды лічыць яе за партыйны «выйгрыш», дык ці знойдуцца й сярод прыхільнікаў БЦР такія, што маглі-б апраўдваць «трох» за перадачу беларускіх нацыянальных сувэрэнных правоў для «суседзяў»?

Абагульніваючы, трэба сьцьвердзіць: брашура пра «Бальшавіцкую акупацыю» выявіла з адаго боку няздольнасьць яе беларускіх укладальнікаў-«экспэртаў» адарвацца ад псыхалёгіі й прыёмаў ананімак «рататарнай эры» беларускага эміграцыйнага друку. Яна выказала поўную няўмеласьць яе укладальнікаў разрозьніць справу агульнанацыянальную ад сваей вузкапартыйнай. Праз гэта брашура паказала, што аўтары проста недарасьлі да выконваньня гэткіх адказных агульнанацыянальных заданьняў.

З другога боку брашура задэманстравала нам ярка факт існаваньня сярод беларускай эміграцыі адзінак, якія ці то дзеля сваіх групова-палітычных, ці то прыватна-матар'яльных карысьцяў, гатовыя паддаць беларускія нацыянальныя інтарэсы пасярэдніцтву, кантролю й цэнзуры іншанацыянальных дзейнікаў. У выніку гэтага калі Украінцы, Палякі ды іншыя нацыянальнасьці рапарты пра свае народы ўкладалі Амэрыканцам самі, дык беларускі рапарт цэнзуравалі й канчаткова афармлялі ня Беларусы, а — «суседзі».

Беларускае пытаньне сяньня — пытаньне палітыкі міжнароднай. Дзеля гэтага шырокая рэпрэзэнтацыя беларускіх нацыянальных інтарэсаў на палітычнай міжнароднай арэне вымагае ад нас ня прымітыўна-рататарнай тактыкі й палітыкі. Хто-ж гэта зразумець і гэтага пазбавіцца ня ў сілах — не павінен і брацца за адказныя агульнанацыянальныя палітычныя справы.

**М. Д.**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

# Падзяка

За апошні час Жаноцкае Згуртаваньне ў Нямеччыне зь незалежных ад яго абставінаў амаль спыніла сваю харытатыўную дзейнасьць. Грашовыя ахвяры і пачкі з вопраткай былі перасыланыя на Бел. Нацыянальны Камітэт, дзе яны й разьмяркоўваліся.

За другое паўгодзьдзе 1954 году паступіла ў касу Згуртаваньня толькі адзіная грашовая ахвяра ў вышыні 10 нямецкіх марак (ад Сп. З. С. — Нямеччына) і былі атрыманы 3 адзяжовыя пачкі (2 ад Сп. Жызьнеўскай, 1 — ад Сп. Махначыхі) з ЗША. Таму й ня была своечасова зьмешчаная справаздача ў «Бацькаўшчыне» з харытатыўнай дзейнасьці Жаноцкага Згуртаваньня за другую палавіну 1954 году.

У 1955 годзе былі атрыманыя грашовыя ахвяры ад Сп. Аксіўчыца Уладыслава з Колінгвуд, Вікторыя — 70,62 ням. марак, ад Сп. Яцкевіч — 9 аўстралійскіх фунтаў (ахвяравалі: Сп. А. Качан — 1.0.0., Сп. Супрун — 1.0.0., Сп. Дарэўскі — 1.0.0., Сп. Данэйко — 1.0.0., Сп. Кадняк — 0,10.0., Сп. Садоўскі — 3.0.0., Сп. Трысмак — 1.0.0., Сп. Э. Яцкевіч — 0.10.0.) з Аўстраліі. Ад Сп. Норыка (ЗША) — 41,50 ням. марак, ад Сп. З. С. (Нямеччына) — 5,20 ням. марак.

Адзяжовыя пачкі прыслалі: Сп. Скабей (Аўстралія) — 3, Сп. Груша (Аўстралія) — 1, Сп. Аксіўчыц (Аўстралія) — 1, Задзіночаньне Беларусаў у Вікторыі — 1. Разам 6 пачкоў. Апрача гэтага атрымана 30 пачкаў цыгарэтаў ад Сп. др. Жука.

Падрабязная справаздача аб разьмяркаваньні атрыманага будзе зьмешчаная ў «Бацькаўшчыне».

Усім Паважаным Ахвярадаўцам, пераважна Аўстралійцам, якія самі знаходзяцца не ў найлепшых матарыяльных умовах, але заўсёды ў меру магчымасьцяў памятаюць аб сваіх абяздоленых братох і сёстрах у Нямеччыне, Жаноцкае Згуртаваньне ад іхнага імя гэтта складае сваю шчырую падзяку.

**Жаноцкае Згуртаваньне ў Нямеччыне**

**НОВЫЯ ГРАМАФОННЫЯ ПЛІТКІ**

Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў Амэрыцы даводзіць да ведама нашага грамадзтва аб выпуску **трох патэфонных плітак,** найграных Ансамблем Песьні й Танцу кліўлендзкай моладзьдзю пад кіраўніцтвам **праф. Міколы Куліковіча.** Зьмест плітак наступны:

**1-ая плітка:** 1. Беларуская народная песьня «Што і за месяц» у выкананьні артысткі Надзеі Градэ. 2. Беларуская народная вясельная песьня «Ой, борам, борам» і беларуская народная скочная песьня «Шастак» у выкананьні харавога ансамблю пад кіраўніцтвам праф. М. Куліковіча.

**2-ая плітка:** 1. Танго «Васількі», музыка праф. М. Куліковіча ў выкананьні артысткі Надзеі Градэ. 2. Беларуская народная вясеньняя песьня «Вол бушуе» ў выкананьні жаноцкага ансамблю і беларуская народная дажынковая песьня «Як я была маладая» ў выкананьні мяшанага ансамблю пад кіраўніцтвам праф. М. Куліковіча.

**3-ая плітка:** 1. Беларуская народная песьня «Ой, рэчанька, рэчанька». 2. Вальс «Вось і паў ужо змрок», музыка Валынчыка ў вапрацоўцы М. Куліковіча.

Пліткі можна набыць паводля наступных адрасоў:

**New York:** Mr. V. Palanievich, 174 Clinton Ave, New York 2, N. Y. U. S. A.
**New Brunswick:** Mr. V. Rusak, 133, Delavan St., New Brunswick, N. J. U. S. A.
**Detroit** Mr. M. Sardeczenko, 1851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich. U. S. A.
**Cleveland:** Mr. S. Karnilovich, 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio. U. S. A.
**Chicago:** Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave, Chicago 22, Illinois. U. S. A.

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Ščečka,** 19, Place Hoover, Louvain.
**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.
**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**Section Bielorussiene de C. F. T. C.** 26, Rue de Montholon, Paris 9.
**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.